# Голас Радзімы

№ 35 (2176)
30 жніўня 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.






**Уладзімір КРЫВАПУШЧАНКА (на здымку) — старшыня калгаса «Дружба» Ушацкага раёна сёлета асабліва абцяжараны гаспадарчымі клопатамі. Ураджай выспеў, што па ўсёй краіне, што на нашай Беларусі — нябачаны. Такога багатага ўраджаю даўно не вырошчвалі і на Віцебшчыне. Вось толькі ўбраць яго няпроста. Не хапае чалавечых рук, не хапае транспарту, наогул тэхнічных сродкаў для выратавання вырашчанага. Ёсць надзея, што з дапамогай заводаў, фабрык, арміі, студэнтаў сёлета мы будзем з хлебам. Але час ужо вярнуць селяніну ўсе правы, даць магчымасць зноў стаць поўнаўладным гаспадаром на зямлі. Тады і ўраджай прынясе не толькі клопаты, але і радасць.**

Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

ЗВАРОТ

## ВЫКАРЫСТАЦЬ ГІСТАРЫЧНЫ ШАНЦ

Камісія Вярхоўнага Савета БССР па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны звярнулася да ўсіх грамадзян рэспублікі з заклікам ратаваць беларускую мову, культуру, сябе. Жыццё беларускай нацыі ў апошнія дзесяцігоддзі ішло так, што яна апынулася пад пагрозай фізічнага і духоўнага вымірання, гаворыцца ў звароце.

Цень Чарнобыля — і радыяцыйнага і духоўнага — зацемрыў нашы далягляды. Рэспубліка перажывае цяжкі эканамічны, палітычны і маральны крызіс. Адна з яскравых праяў апошняга — сённяшнія нігілістычныя ці ў лепшым выпадку абыякавыя адносіны да беларускай мовы. Да мовы народа, які шанаваў і бярог яе на працягу стагоддзяў як найкаштоўнейшы скарб сваёй душы. Да мовы, на якой створаны вялікая, прызнаная цэлым светам літаратура, беларускі нацыянальны тэатр. Да мовы, якая нядаўна абвешчана ў рэспубліцы дзяржаўнай, роля і значэнне якой ва ўмовах дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі будзе ўвесь час узрастаць. Будзе!—бо ў гэтым зацікаўлены ўсе патрыёты Бацькаўшчыны. Будзе! — бо іначай словы пра духоўнае адраджэнне беларускай нацыі застаюцца пустым гукам. Духоўнасць — твар культуры, а мова — твар і культуры, і самога народа.

**Камісія звяртаецца да бацькоў, чые дзеці ўпершыню сёлета пойдуць у школу, не ўпусціць дадзенага нам, беларусам, гістарычнага шанцу і накіраваць сваіх дзяцей у беларускія школы.**

**«Будзьце ж дастойнымі вялікіх задач, што паўсталі перад усімі намі, дочкамі і сынамі Беларусі,—задач нацыянальнага беларускага адраджэння! Патрабуйце адкрыцця школ або хаця б на пачатку стварэння класаў на роднай беларускай мове»,—заклікае зварот.**

*Хоць у артыкуле 68 Канстытуцыі Беларускай ССР і было запісана, што Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка — суверэнная сацыялістычная дзяржава, ніякага суверэнітэту не было. Таму сённяшні дзень паставіў перад намі шэраг праблем, якія ў прамым сэнсе слова трэба адраджаць. Складанасць заключэння Саюзнага дагавора ў тым, што мы, рэспублікі, хочам новага Саюза. А Саюз хоча застацца старым Саюзам з новай шыльдай.*

*Цэнтр хоча захаваць у сваіх руках мага больш тых функцый і сродкаў, якімі ён распараджаецца цяпер. Дэкларацыі аб суверэнітэце, якія прыняты практычна ва ўсіх рэспубліках, распрацоўваліся, на маю думку, не столькі з пазіцый эканамічнага разліку, колькі з палітычных пазіцый — хутчэй адрадзіць самастойна усіх нашых саюзных дзяржаў, выйсці з падпарадкавання цэнтру. І таму ў перагаворах аб заключэнні Саюзнага дагавора ўзнікае цэлы клубок праблем, няяснасцей, недагаворанасцей, супярэчнасцей: у першую чаргу — паміж цэнтрам і саюзнымі рэспублікамі, і ў другую — паміж рэспублікамі. Ад таго, наколькі ўзважаны, прадуманы будзе гэты дагавор і з эканамічнага, і з палітычнага пункту гледжання, залежыць, ці будзе наша Беларусь развівацца нармальна, паўнакроўна, незалежна.*

*(В. ШАЛАДОНАЎ, намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета БССР).*

МІЖРЭСПУБЛІКАНСКІЯ ДАГАВОРЫ

## ПАГАДНЕННЕ АБ СУПРАЦОЎНІЦТВЕ

Урадавае пагадненне аб развіцці эканамічнага, навукова-тэхнічнага і культурнага супрацоўніцтва заключана паміж Беларуссю і Азербайджанам.

Яго падпісалі Старшыні Саветаў Міністраў абедзвюх рэспублік.

Беларусь і Азербайджан будуць супрацоўнічаць у вытворчай сферы, гандлі, навуцы, адукацыі, культуры. Цікавыя некаторыя дэталі. Напрыклад, абедзве рэспублікі абавязаліся забяспечыць у гэтым годзе пастаўку адна адной прадукцыі па выдзеленых раней лімітах, існуючых сувязях і дагаворах у поўным аб'ёме. Супрацоўнічаць між сабой могуць прадпрыемствы і арганізацыі абедзвюх рэспублік незалежна ад форм уласнасці і ведамаснай прыналежнасці. Прадугледжана стварэнне сумесных прадпрыемстваў. Прычым не толькі па вытворчасці тавараў, але і іншай прадукцыі.

Каардынаваць усю работу будзе двухбаковая ўрадавая камісія.

У Мінску і Баку вырашана стварыць пастаянныя прадстаўніцтвы рэспублік.

Раней былі заключаны ўрадавыя дагаворы аб развіцці эканамічнага, навукова-тэхнічнага і культурнага супрацоўніцтва паміж БССР і Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай Малдова і Туркменскай ССР.

ДОСТУП ДА АРХІВАЎ

## ЗНІМАЕЦЦА ГРЫФ САКРЭТНАСЦІ

Урад краіны прыняў пастанову аб мерах па расшырэнню доступу даследчыкаў да дакументаў архіваў Міністэрства замежных спраў СССР. Устанаўліваецца, што пасля заканчэння 30-гадовага тэрміну захоўвання ў архівах МЗС СССР грыф сакрэтнасці знімаецца з усіх дакументаў, якія адносяцца да знешняй палітыкі. Выключэннем з'яўляюцца тыя, дзе закранаюцца асабліва важныя дзяржаўныя інтарэсы, а таксама дакументы, абнародаванне якіх магло б паставіць пад пагрозу правы і асноўныя свабоды асобы.

АФГАНСКАЯ ВАЙНА

## НЕЛЬГА ДАРАВАЦЬ

Дабіцца маральнай, палітычнай і юрыдычнай ацэнкі афганскай вайны, прыцягнуць да адказнасці ўсіх вінаватых у развязванні гэтай авантуры незалежна ад іх рангу, судзіць, як судзілі фашысцкіх злачынцаў у Нюрнбергу. Усё гэта дзеля таго, каб Афганістан больш не паўтарыўся. Такія мэты ставіць перад сабой Усесаюзная арганізацыя бацькоў воінаў, загінуўшых у Афганістане, штаб-кватэра якой месціцца ў Мінску.

Плануецца склікаць агульнасаюзную канферэнцыю бацькоў ваеннаслужачых, якія загінулі ў Афганістане, і звярнуцца да Прэзідэнта СССР, да Вярхоўнага Савета краіны.

Калі ж іх патрабаванні зноў праігнаруюць, то арганізацыя звернецца за дапамогай у міжнародны суд у Гаазе.

Акрамя таго бацькі патрабуюць грашовай кампенсацыі не толькі сем'ям загінуўшых, але і ўсім ваеннаслужачым, што прайшлі Афганістан. А бацькам і дзецям, якія страцілі ў гэтай вайне сыноў, бацькоў, а таксама інвалідам-афганцам штомесячна выплачваць дапамогу ў размеры сярэдняга агульнасаюзнага заработку.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

Упершыню ў Савецкім Саюзе ў Мінску пры сінагозе адкрыты лагер для яўрэйскіх дзяцей. Яго арганізатарамі сталі таварыства яўрэйскай культуры пры Беларускім фондзе культуры і амерыканская рэлігійная арганізацыя «Хабат». Дзеці вывучаюць тут іўрыт, асновы Торы, развучваюць яўрэйскія песні і танцы, атрымліваюць паняцце аб сваёй нацыянальнай культуры.

Лена Бруй, вучаніца Карцэвіцкай сярэдняй школы Нясвіжскага раёна заняла першае месца сярод навучэнцаў 10-х класаў рэспублікі на алімпіядзе па французскай мове. У ёй удзельнічалі 17 школьнікаў, а найбольш здольнай аказалася Л. Бруй. Ёй уручаны дыплом І ступені Міністэрства народнай адукацыі БССР і бясплатная пуцёўка ў Парыж.

Дэгустатары вядомай заходнегерманскай фірмы «Гамбрынус», паспытаўшы нядаўна аршанскае піва, тут жа прапанавалі мясцовым піваварам запатэнтаваць тэхналогію яго вытворчасці. Поспех мясцовых майстроў не выпадковы. Аршанскай піваварні спаўняецца сёлета 107 гадоў. Рэцэптура і тэхналогія напітку адпавядае самым сучасным стандартам. Этыкетку піва, якое пачынае выпускаць фірма «Гамбрынус», упрыгожвае герб горада Оршы.

З ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ

# КДБ ЧАСОЎ ПЕРАБУДОВЫ

Днямі адбылася прэс-канферэнцыя журналістаў з кіраўніцтвам Камітэта дзяржаўнай бяспекі БССР, наладжаная аддзелам інфармацыі Савета Міністраў БССР і аддзелам грамадскіх сувязей КДБ. На сустрэчу была запрошана таксама здымачная група Беларускага тэлебачання, што дало магчымасць паслухаць і ўбачыць прэс-канферэнцыю ўсім, каго цікавіць дзейнасць гэтай арганізацыі ў час перабудовы і публічнасці.

Пра тое ж, што цікавіць яна вельмі многіх, расказаў у сваім выступленні першы намеснік старшыні КДБ БССР Эдуард Шыркоўскі. Ён сказаў, што апошнім часам іх ведамства атрымлівае надзвычай многа пісьмаў ад грамадзян з крытычнымі заўвагамі, нават з прапановамі рэарганізаваць КДБ, стварыць у будынку яго музей. Гэтага магло б не быць, каб людзі больш ведалі аб рабоце органаў дзяржаўнай бяспекі, аб задачах, што стаяць перад імі ў цяперашні нялёгкі перабудовачны час. Аддаваць будынак КДБ пад музей пакуль што рана.

Асноўнай работай камітэта з'яўляецца контрразведка. Дэмакратызацыя, публічнасць, адкрытасць нашага грамадства стварылі спрыяльныя ўмовы для вядзення падрыўной работы замежнымі спецслужбамі супраць Савецкага Саюза, супраць Беларускай ССР. Замежныя разведкі імкнуцца здабыць максімум патрэбнай інфармацыі. Вядома, што прэзідэнт Буш не прымае ніводнага адказнага рашэння, пакуль не параіцца са сваімі спецслужбамі.

З кожным годам павялічваецца паток замежных турыстаў у нашу рэспубліку. У 1988-89 гадах з іх ліку выяўлена 9 чалавек, якія з'яўляліся кадравымі супрацоўнікамі разведак, яшчэ больш сярод гасцей было эмісараў зарубежных падрыўных цэнтраў.

Зусім натуральна, што КДБ вядзе і разведку. «Нам трэба ведаць пра апошнія дасягненні навукі і тэхнікі, — сказаў Э. Шыркоўскі. — Мы павінны ведаць пра наспяваючыя крызісныя сітуацыі, ваенныя канфлікты, нарэшце, мець звесткі аб падрыхтоўцы да вайны замежных дзяржаў». Непачаты край работы для органаў і ў эканоміцы. Яны аберагаюць многія камерцыйныя сакрэты, навуковыя адкрыцці і тэхналогіі, за якімі ганяюцца спецслужбы. На жаль, многія людзі губляюць пільнасць, адкрытасць абарочваецца вялікай шкодай. Нядаўна ў адной з амерыканскіх газет быў апублікаваны артыкул, прысвечаны трагічнаму лёсу падводнай лодкі «Камсамолец». У ім аўтар адзначае, што дзякуючы публічнасці ў СССР, у друк трапілі звесткі аб караблі, якія здзівілі іх. Начальнік разведкі ВМС ЗША контр-адмірал Т. Брукс адзначыў, што яны атрымалі такія бясцэнныя звесткі аб Савецкім Саюзе, для збору якіх з прымяненнем традыцыйных разведвальных метадаў давялося б выдаткаваць мільёны долараў і патраціць доўгія гады.

Зараз ідзе стварэнне сумесных з зарубежнымі фірмамі прадпрыемстваў, мы заваёўваем міжнародны рынак. Дапамога разведчыкаў неабходна і тут, каб абараняць інтарэсы сваёй краіны, не раскрыць сваіх сакрэтаў, ведаць намеры партнёраў.

Сустрэч, падобных на гэту, пакуль што было ў рэспубліцы нямнога, і таму пытанні ў журналістаў былі самыя розныя. Было, напрыклад, такое: ці апраўдвае КДБ затраты на сваё ўтрыманне? Паняцце рэнтабельнасці КДБ цяжка вылічыць у тонах, ці нават рублях, аднак можна прывесці прыклады, калі ў выніку аперацый, праведзеных супрацоўнікамі камітэта, у дзяржаўную казну вярталіся дзесяткі мільёнаў рублёў. Хацелі журналісты ведаць, ці праслухоўваюцца органамі КДБ тэлефонныя размовы, ці ёсць на грамадзян асабовыя справы ў КДБ. «Па палітычных матывах на тэрыторыі рэспублікі не праслухоўваецца ні адна тэлефонная размова, — зрабіў афіцыйную заяву Э. Шыркоўскі. — Палітычным вышукам КДБ не займаецца і асабістыя справы ёсць толькі тых, хто тут працуе».

Для таго, каб жыхары рэспублікі больш былі дасведчаны аб рабоце органаў дзяржаўнай бяспекі, нядаўна ў камітэце створаны аддзел грамадскіх сувязей. Даная прэс-канферэнцыя паказала, што ён пачынае выконваць свае задачы.

ГОЛАС УРАЧОЎ

**У Мінску, каля Дома палітасветы, адбыўся мітынг. Яго ініцыятары — стачачны (каардынацыйны) камітэт медыцынскіх работнікаў горада і вобласці і Мінскі абласны камітэт прафсаюза медработнікаў.**

**Як адзначалі прамоўцы, выйсці на вуліцу ўрачоў прымусілі дрэнна арганізаваная работа па ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС (сёння ў вобласці больш палавіны насельніцтва пакутуе на хранічныя захворванні, нізкая нараджальнасць і сярэдняя працягласць жыцця, расце колькасць інвалідаў з дзяцінства), немагчымасць аказання своечасовай і якаснай медыцынскай дапамогі з-за адсутнасці жыццёва неабходных медыкаментаў, шпрыцаў, іголак, інструментарыя і абсталявання, мізэрная зарплата пры працягласці рабочага дня да 10—13 гадзін, сацыяльная неўладкаванасць медыцынскіх работнікаў.**

**Удзельнікі мітынгу запатрабавалі да 1 верасня ўрэгуляваць сістэму аплаты працы медыцынскіх работнікаў усіх катэгорый, павялічыць штогадовы мінімальны водпуск і ўстанавіць права бясплатнага праезду на грамадскім транспарце медработнікам, якія маюць раз'язны характар работы.**




**НА ЗДЫМКУ: у час мітынгу.**

## БЕЛАРУСЫ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# «БАЦЬКАЎШЧЫНА» contra «РАДЗІМА»?

**Спачатку хадзілі чуткі, па-руках—паасобныя дакументы: дэкларацыя, статут. Нешта выспявала. Але вось нядаўна праз «ЛіМ» людзі маглі даведацца, што ў Мінску ствараецца згуртаванне «Бацькаўшчына». Быў апублікаваны «Зварот да беларусаў свету» і паведамленне, што 10 верасня гэтага года, пасля завяршэння скарынаўскіх свят, адбудзецца Устаноўчая канферэнцыя згуртавання.**

**«...гуртавацца ў сваіх шэрагах на грунце чалавечнасці, узаемапавагі і годнасці, вернасці бацькоўскім традыцыям, шанавання духоўных набыткаў роднага народа, усіх людзей добрай волі, як аб'яднаных у суполкі і зямляцтвы, так і паасобных, усіх, каму дарагі лёс Беларусі.»**

**Так запісана ў звароце пра мэты новай арганізацыі. Запісана прыгожа і ўзнёсла, здаецца, не можа не дайсці да свядомасці беларуса.**

**— Падзяляючы кожнае слова з вышэйнапісанага, я ўсё ж хацеў бы, каб наш чытач даведаўся, як гэта павінна выглядаць практычна, стасуючыся да нашай рэальнасці. Таму, калі ласка, — звяртаюся я да вядомага крытыка Яўгена ЛЕЦКІ, старшыні Аргкамітэта, — пра мэты згуртавання, пра патрэбы яго ўзнікнення.**

— Калі браць чыста фармальнае, знешняе, то амаль кожны народ, еўрапейскі, ва ўсякім разе, мае свае такія структуры, ці то грамадскія, ці нават дзяржаўныя, што займаюцца сваімі суайчыннікамі за межамі краіны. Напрыклад, у Францыі ёсць дэпартамент, які займаецца справамі французаў за мяжой: ён вельмі разгалінаваны, шмат налічвае людзей. Ну, а ў іншых гэта чыста грамадскія арганізацыі. У нас такой структуры, якая б займалася сувязямі з усімі беларусамі за мяжой, няма.

*— Але ці ж не гэтымі сувязямі займаецца Беларускае таварыства «Радзіма»?*

— Вядома, ёсць сувязі па партыйнай лініі і па дзяржаўнай лініі. І вось па лініі таварыства «Радзіма» такія кантакты наладжваліся. Але гэта ўсё-такі мела нейкую сваю, вузкую спецыфіку. Мы маем на мэце ўвогуле ўвесь арэал беларусаў. А калі гаварыць пра «Радзіму», напрыклад, то яна займалася толькі беларусамі, якія былі за межамі Савецкага Саюза.

*— Удакладню: да перабудовы, — толькі тымі беларусамі, якія жывуць на Захадзе, у капіталістычных краінах. Таму што лічылася, як беларусы жывуць у сацыялістычнай краіне, то яны не маюць патрэбы ў нашай апецы. Таму што ўлада аднолькавая, мэты адны і тыя ж, значыць яны там маюць усё тое, што і мы маем.*

— Бачыце, удакладненне вельмі дарэчы, і яно яшчэ больш, мне здаецца, іграе на нашу ідэю. Вось зыходзячы з таго, што іншыя народы маюць свае аб'яднанні, а мы не маем, і задумана згуртаванне. А патрэбы гэтага ў нас яшчэ большыя, чым у іншых народаў: усё звязана са станам нашай нацыянальнай свядомасці. Не сакрэт жа, што яна ў параўнанні са свядомасцю іншых народаў у сілу гістарычных прычын аказалася менш развітай. І адносіны да замежных беларусаў — адна з праяў гэтай несвядомасці. Гэта адна з прычын, чаму паўстае «Бацькаўшчына».

Другая прычына — гэта Чарнобыль, які паставіў нас на мяжу фізічнага існавання. Ён выклікае боль у тых, хто быў звязаны з Беларуссю, выехаў адсюль некалі. Ёсць неабходнасць наладжваць кантакты, каб аб'яднаць свае намаганні дзеля ратавання народа, не толькі з эміграцыяй беларускай, але і з яўрэйскай эміграцыяй, польскай...

*— Карацей кажучы, з усімі, хто з гэтай зямлі.*

— Так, бо наша арганізацыя не толькі чыста нацыянальная, мы маем на ўвазе наладжванне кантактаў з усімі нашымі суайчыннікамі. Мы ведаем, што за мяжой, у іншых рэспубліках краіны, ёсць ужо згуртаванні беларусаў. Але ўсё-такі яны аб'ядноўваюць толькі пэўны працэнт нашых суайчыннікаў і, відаць, не найбольшы працэнт. Многа людзей знаходзіцца па-за гэтымі арганізацыямі. Цяжка нам гаварыць, чаму яны не прымаюць удзел у патрыятычным руху, але факт застаецца фактам. Я ведаю па сваіх земляках, якія прыязджаюць з усяго далёкага свету. Яны захоўваюць і мову, і традыцыі, але яны пра гэтыя задзіночанні і не чулі. Задача нашай арганізацыі, як задумваецца, наш згуртавання — наладжв. кантакты не толькі вось з гэтымі свядомымі беларусамі, якія выехалі неекалі з краю і збераглі сваё нацыянальнае аблічча ў чужым асяроддзі, але і з тымі. якія забыліся, што ў іх ё свая мова, культура. Ł. трэба шукаць сцяжынку і да іх. Тут напрамую не пойдзеш. Адна справа мець дачыненне з беларусамі свядомымі, цалкам свядомымі. Да іх і звяртацца на сваёй мове. А тут, відаць, трэба карыстацца нейкай мовай-пасрэднікам на першым часе, дзесьці і дзвюма мовамі (маю на ўвазе нашы выданні). Гэта вельмі важны момант і яго мы павінны ўлічваць, калі будзем працаваць з беларусамі Савецкага Саюза. А іх там мільёны. Раней з імі наогул ніякая работа не вялася. Не вялася адсюль, з рэспублікі, на арганізаваным узроўні, і там таксама. Я ведаю, калі ў Маскве былі спробы арганізавацца, ім проста не дазвалялі. А цяпер сітуацыя памянялася, цяпер узнікла і ўжо афіцыйна зарэгістравана пры Беларускім фондзе культуры дзесяць зямляцтваў. Апрача гэтага ёсць і такія, якія пакуль не рэгістраваліся. Пакуль што гэта першыя праявы нацыянальнага руху, і наша задача дапамагаць адсюль, з Мінска, весці ім культурную работу.

*— Ці не здаецца вам, што гэтыя беларускія суполкі, па Савецкім Саюзе рассыпаныя, з'ява крыху элітарная ці што? Па-першае, яны, на жаль, з'ява чыста інтэлігенцкая, а па-другое, у адрозненне ад масавых польскіх аб'яднанняў, што ўзнікаюць і ў Беларусі, і ў цэлым на Саюзу, яны мала лікія.*

— Так яно ёсць, але ж пакуль што гэта зародкавы рух. Ну, вось у Цюмені, напрыклад, іх зарэгістравана недзе каля дзвюх соцень. І гэта, заўважце, пераважна рабочыя людзі, тэхнічная інтэлігенцыя. Гэта адно з самых масавых зямляцтваў. А так, канешне, па некалькі

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**



**На лячэнне ў шахту могуць адпраўляцца некаторыя пацыенты, хто пакутуе на хранічныя захворванні органаў дыхання. Пульманалагічнае аддзяленне спелеатэрапіі на 60 ложкаў адкрыта пры Цэнтральнай раённай бальніцы Салігорска.**

**Пасля лячэбнага сну ў шахце хворыя вяртаюцца ў надземны стацыянар, дзе ім створаны ўмовы для адпачынку і, у выніку неабходнасці, дадатковага медыцынскага лячэння.**

**НА ЗДЫМКУ: лячэнне на глыбіні больш за 400 метраў.**

## АХОВА ЗДАРОЎЯ ДЗЯЦЕЙ РЭСПУБЛІКІ

# ХВОРЫЯ ЧАКАЦЬ НЕ МОГУЦЬ

**Сённяшняя гутарка з галоўным педыятрам Міністэрства аховы здароўя БССР Нонай РЫСЬ закранае адну з самых балючых і актуальных для нас праблем — ахову здароўя беларускіх дзяцей. Як вядома, у сувязі з чарнобыльскай аварыяй гэта набыло асаблівую злабадзённасць. Сотні хлопчыкаў і дзяўчынак з Беларусі сёлета паехалі на адпачынак і лячэнне за межы рэспублікі і краіны. Але замежная дапамога не можа вырашыць сітуацыю кардынальна. Усё залежыць ад таго, як будзе наладжана медыцынскае абслугоўванне дзяцей у сябе дома, на Беларусі. З гэтага і пачалася гаворка.**

— Так, залог поспеху тут у нашых руках, у руках тых беларускіх урачоў, якія жывуць побач з дзецьмі, бачаць іх амаль штодзень, ведаюць літаральна кожнага ў твар, карацей, усё залежыць ад рэспубліканскай практычнай педыятрыі, — расказала Нона Рыгораўна. — Ні для кога не сакрэт, што фінансаванне аховы здароўя ва ўсёй нашай краіне вялося па так званаму астаткаваму прынцыпу. У першую чаргу адшукваліся грошы і матэрыяльныя сродкі на будаўніцтва вялізных заводаў, электрастанцый... А потым, калі што-небудзь заставалася, згадвалі пра бальніцы, паліклінікі, санаторыі.

**— Асабіста мне здаецца, што ахова здароўя дзяцей да нядаўняга часу была нават у горшым стане, чым дарослых...**

— Магчыма і так. Але сёння сітуацыя ў нечым змянілася. Мы маем наступныя лічбы, якія могуць ілюстраваць яе. Дзеці зараз складаюць прыкладна 23 працэнты ад усяго насельніцтва Беларусі. У той жа час на ахову іх здароўя выдаткоўваецца 30 — 40 працэнтаў выдзеленых усёй медыцыне сродкаў. Такі паварот пачаўся недзе з 1988-га года. Але трэба ўлічыць яшчэ адну акалічнасць, якая не дае нам падстаў асабліва радавацца сказанаму. Справа ў тым, што сама сума выдаткаў на медыцыну пакуль што па-ранейшаму невялікая.

**— Адзін з галоўных паказчыкаў стану дзіцячай медыцыны — дзіцячая смяротнасць. Як тут у нас справы!**

— На Беларусі дзіцячая смяротнасць па статыстыцы складае ў сярэднім 11,7 на 1000 народжаных. Гэты паказчык — з самых нізкіх у СССР. Мы ідзём недзе пасля Літвы і Латвіі.

Дарэчы, што тычыцца нараджальнасці. Апошнія два гады яна ў рэспубліцы зменшылася. Тут, безумоўна, паўплываў чарнобыльскі сіндром: людзі сталі проста баяцца раджаць дзяцей. Такая сітуацыя складваецца ў цэлым па Беларусі, а не толькі ў Гомельскай або Магілёўскай абласцях. Між іншым, для даведкі: на Магілёўшчыне сёння дзіцячая смяротнасць ніжэйшая за агульнарэспубліканскую — 10,2. У даным выпадку хутчэй за ўсё паўплывала тое, што ў сувязі з чарнобыльскім забруджаннем яе тэрыторыі значна ўзрасла ўвага медыкаў да жыхароў вобласці, лепшай стала меддапамога і дарослым, і дзецям. Гэта яшчэ адзін яскравы прыклад таго, як многа залежыць ад узроўню медыцынскага абслугоўвання.

**— Чаго ж нам не стае ў першую чаргу! Кваліфікаваных урачоў! Медыцынскай тэхнікі! Лекаў! Бальніц!**

— Будынкамі, што выкарыстоўваюцца пад бальніцы, паліклінікі, медыцына практычна забяспечана. А вось медыцынскага абсталявання катастрафічна не хапае. У сувязі з тымі ж чарнобыльскімі справамі, медыкам для дародавай дыягностыкі трэба мець дастаткова ультрагукавых апаратаў. Іх закупляюць на валюту ў Японіі і ЗША. Так, сёння мы ўжо маем іх. Але трэба значна больш. Ёсць пільная патрэба ў сучасным абсталяванні для дыягнаставання захворванняў крыві. Асабліва ў забруджаных радыенуклідамі раёнах. Але зноў-такі: набыць яго можна за свабодна канверсуемую валюту, з якой так туга не толькі ў самой Беларусі, але і ў краіне.

**— Як усё ж такі справы са здароўем у дзяцей з забруджаных раёнаў!**

— Першае і галоўнае, што хачу сказаць: мы, медыкі, вельмі спадзяёмся, што сем'і з малымі дзецьмі з гэтых забруджаных раёнаў будуць тэрмінова пераселены.

Наогул па рэспубліцы ўзята на ўлік 37 тысяч дзетак, якія ў той ці іншай ступені пацярпелі ад чарнобыльскай радыяцыі. Многія ўжо даўно жывуць у «чыстых» зонах. Але медыкі па-ранейшаму трымаюць іх пад пастаянным кантролем: раптам здарыцца аддаленае праяўленне атрыманага апрамянення. Створана нават спецыяльная ўстанова, якая вядзе гэты рэгістр і абследаванне занесеных у яго людзей.

**— З гематалагічным дзіцячым аддзяленнем у Мінску склалася вельмі драматычная, калі не сказаць, трагічная сітуацыя. Там няма ніякіх умоў для лячэння смяртэльна хворых дзетак. Гэта ўбачыла ў адной з тэлепраграм не толькі ўся Беларусь, але і ўся краіна. Абурэнне, гнеў, якія выклікалі тыя тэлекадры, абгрунтаваны на ўсе сто працэнтаў.**

— Сёння ў гематалагічным аддзяленні 1-й клінікі ў Мінску адбыліся значныя змены. Хаця праблема з лячэннем хворых на лейкемію дзяцей увогуле пакуль не вырашана на Беларусі.

І галоўнае ў тым, што ў нас пакуль няма ўмоў, каб рабіць неабходную ў такіх выпадках перасадку касцявога мозгу. Праз некалькі гадоў у Мінску, спадзяёмся, з'явіцца сучасны гематалагічны цэнтр, вось тады можна будзе гаварыць пра кардынальнае вырашэнне праблемы. А пакуль... Хворыя дзеці чакаць не могуць. Таму даводзіцца разлічваць у значнай ступені на дапамогу звонку; каб не губляць час, адпраўляем на стажыроўку, вучобу за мяжу нашых спецыялістаў; стараемся даставаць неабходныя лякарствы.

Лячэнне за мяжой каштуе вельмі дорага. Грошай узяць практычна няма дзе. Спадзяёмся на спагадлівасць найбольш «багатых» беларускіх прадпрыемстваў.

**— Сітуацыю вы абмалявалі вельмі сумную...**

— Сітуацыя, вызначым так, складаная. Але трэба шукаць выйсце. У прынцыпе нельга сказаць, што нашы дзеці знаходзяцца ў дрэнным стане. Наогул яны сёння значна лепш дагледжаныя. Стала менш прыроджаных парокаў. Медыкі імкнуцца ліквідаваць усе фактары, якія спадарожнічаюць росту захворванняў. Так, прыняты больш жорсткія нормы на ўтрыманне нітратаў у прадуктах харчавання.

**— Нона Рыгораўна, ці можна ўсё гэта аднесці і да сяла, якое традыцыйна знаходзілася ў нас у горшых умовах, чым горад!**

— Так, можна. Наогул у вёсцы існуе свая асобая сістэма аховы здароўя. У сяло па графіку абавязкова наведваюцца ўрачы розных спецыяльнасцей. Існуе таксама парадак безадмоўнай гаспіталізацыі па першаму выкліку ўрача. Дзіцячыя аддзяленні размешчаны ў асноўным у раённых бальніцах, таму што там сёння сканцэнтравана неабходнае медыцынскае абсталяванне, працуюць кваліфікаваныя спецыялісты. Дарэчы, у адрозненне ад гарадскіх, вясковыя дзеці гаспіталізуюцца разам з маці, для якіх у бальніцы ствараюцца ўсе ўмовы для догляду за хворымі дзецьмі.

**— Дзякуй вам за гутарку, Нона Рыгораўна. Будзем спадзявацца, што нарэшце сітуацыя ў нашай сістэме аховы здароўя дзяцей значна палепшыцца. Гэта вельмі важна для ўсіх нас.**

**Гутарку вяла**
**Галіна УЛІЦЁНАК.**

# «БАЦЬКАЎШЧЫНА» contra «РАДЗІМА»?

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

дзесяткаў. У Літве крыху больш развіты гэты рух. Але калі ўзяць перадваенны час, што тады тварылася ў Заходняй Беларусі, на той жа Віленшчыне, і цяпер, дык не да параўнання.

*— Я прачытаў ваш Зварот у «ЛіМе». Гэта сама ўзнёслась. Але ж будзем рэалістамі: беларусаў цяжка зварухнуць з месца. Мой скептызм пацвярджаюць і вось гэтыя словы. Я вам зараз прачытаю некалькі радкоў з беластоцкай «Нівы». Напісаў іх усім нам добра вядомы пісьменнік і грамадскі дзеяч Алесь Барскі: «Стан беларускай нацыянальнай свядомасці ўсім вядомы. Дайшлі мы да такой ступені самапагарды, што мабыць ва ўсім свеце знойдзецца не многа народаў, якія маглі б з намі зраўняцца. Так, беларусы гэта народ, які выразна не хоча быць народам».*

*Ці ёсць рацыя ў Барскага?*

— Рацыя ёсць, горкая рацыя.

*— Дык вось, калі стаць на рэальную глебу, на што мы можам разлічваць, стварыўшы такую арганізацыю?*

— Цяжка сказаць, на што мы можам разлічваць... На гэта не трэба заплюшчваць вочы і ўяўляць тых, якія недзе далёка, занадта ідэалізавана. Па нас жа саміх відаць, як нялёгка людзей скрануць на нейкія канкрэтныя справы. У нас проста часта адсутнічае грамадскае, палітычнае мысленне...

Прыгадваю, як Індзіра Гандзі зрывала з сябе ўпрыгажэнні, калі ўзнікла пагроза Індыі, і аддала іх на фонд абароны народу. Дык вось у нас такіх самаахвярных рухаў вельмі мала. Мы дзесяць разоў падумаем, перш чым нейкі рубель адзычыць ці самога сябе падняць на нейкую справу. Праўда, ёсць прыклады і іншага характару. Вядомы тэатразнаўца А. Сабалеўскі з першага закліку ахвяраваў 1000 рублёў. Але ж ведаючы рэальнае становішча і разумеючы яго добра, нельга апускаць рукі і пагаджацца з тым, што замінае. Трэба настройвацца на работу, на цяжкую, карпатлівую работу. Будзем усё ж разлічваць на ахвярнасць, энтузіязм. Веру, калі пачнецца рух, то ён павінен уцягваць людзей. Можа, я не быў бы такім аптымістам, каб не займаўся дваццатымі гадамі, не жыў у былой Заходняй Беларусі. Гэта мне дало добры зарад. Я ведаю, як тады была пераадолена гэтая наша традыцыйная абыякавасць і пасіўнасць. Як звычайныя людзі пачыналі разумець нацыянальную справу і аддаваць сябе ёй. Я сам з Наваградчыны. Гэта быў адзін з самых актыўных нацыянальных цэнтраў. Я ведаю, як да гэтага ставіліся простыя мужыкі. Вось мой бацька. Ён пахадзіў толькі зіму-другую ў школу. А які гэта быў культурны чалавек, абсалютна дасведчаны ў тых справах, што тады рабіліся. Пра нашых паслоў у сойм — Мятлу, Тарашкевіча — ён мне расказваў гадзінамі. А цяпер вазьмі інтэлігента з вышэйшай адукацыяй, і ён не дасведчаны ў гісторыі. Тады ж усё-такі гэта закруціла людзей. Ёсць адзінкі, якія могуць павесці за сабой многіх.

*— Яўген Рыгоравіч, у звароце, які звернуты да беларусаў свету, вы ўсё ж гаворыце пра ідэю згуртавання беларусаў Савецкага Саюза, не адмаўляючы ў гэтым і астатнім, што жывуць у іншым свеце. Вось і цяпер мы з вамі гаворым у асноўным пра «савецкіх» беларусаў. Расстаўце тут, калі ласка, кропкі над «і».*

— Я хацеў бы, каб мяне зразумелі правільна. З аднаго боку, заклік да беларусаў свету. Былі ў нас ваганні: калі мы маем на ўвазе перш за ўсё работу з беларусамі Савецкага Саюза, то і заклік трэба рабіць да беларусаў Савецкага Саюза.. Ну, а потым так лагічна ўзнік шэраг праблем: як Літву лічыць, тым больш з перспектывай на яе незалежнасць — гэта Савецкі Саюз ці замежжа? Як быць з беларусамі з Польшчы, з этнічна беларускіх земляў? Можа, і яны захочуць далучыцца да нас? Што — адмовіць ім? Сказаць, што згуртаванне толькі для нас?! І мы вырашылі, што і звяртацца, і статут ствараць трэба да беларусаў свету. Але, з другога боку, мы добра ведаем, што ёсць ужо такія згуртаванні беларусаў за мяжой і ёсць спробы там арганізавацца ўсім ім на Захадзе. Мы не можам за іх гаварыць. На[...]а, яны самі выкажуць с[...] адносіны да нашага згуртавання. Захочуць далучыцца да нас ці не.

Я ўжо казаў, што мы выступаем пад сцягам яднання, згуртавання ўсіх беларусаў, незалежна ад іх поглядаў і ўсяго [...]ага. Мы свядома не па[...]лі запрашэнняў на канферэнцыю тым беларусам, якія жывуць на Захадзе. Дзеля чаго? Каб не падумалі, што тут у Савецкай Беларусі ёсць нейкае згуртаванне, якое хоча іх раскалоць. Той, хто прыедзе сам па сабе ці на скарынінскія святы, мы яго запрашаем на канферэнцыю. І мы тут прымем на канферэнцыі да беларусаў заходняга свету такі зварот: мы заклікаем іх да яднання і прапануем, можа, на працягу наступнага года падрыхтаваць усебеларускі кангрэс, дзе былі б прадстаўлены ўсе — і беларусы Савецкага Саюза, і Польшчы, і заходніх краін. Каб выпрацаваць агульныя прынцыпы яднання. Можа, гэта будзе згуртаванне нацыянальных камітэтаў розных краін...

*— Але ж гэтыя функцыі пакуль што выконвае таварыства «Радзіма». Якім будзе ваша стаўленне да «Радзімы»? Як да канкурэнта, ці арганізацыі-партнёра?*

— Будзем існаваць як партнёры. Тут трэба зыходзіць з рэальнага разумення таго, калі ўзнікала «Радзіма», якія ў яе былі задачы, якую яна мае сферу свайго ўплыву, якія яе прынцыпы. Можа, знешне гэта моманты фармальныя, але на самай справе яны важныя. У «Радзімы» ёсць свае традыцыі, ёсць і свой плён. Таму што гэта было таварыства, якое ўсё-такі доўгія гады такія кантакты падтрымлівала. Хоць яно, як вядома, не з усімі беларусамі падтрымлівала. Але быў такі час, і ад гэтага нідзе не дзенешся...

*— Але ж, акрамя таварыства, нікога другога тады не было, каму было б дазволена падтрымліваць кантакты...*

— Сапраўды так. Але гэта наклала як бы пэўны недавер да таварыства тых беларусаў, з якімі не хацелі мець кантактаў. Канешне, гэта пераадолець так лёгка не ўдасца. Праўда, пакрысе яно пераадольваецца. Вось вельмі важна было, што запрасілі «Васілёк»...

Я цяпер ведаю, што «Радзіма» шмат робіць дзеля таго, каб арганізаваць сярод суайчыннікаў рух за дапамогу ахвярам Чарнобыля. І было б неразумна, а нават грэшна як бы перабягаць дарогу «Радзіме», адны адным. На жаль, не ўсе разумеюць, што ў той сітуацыі цяжка было быць іншымі.

*— Між іншым, якраз учора таварыства «Радзіма» атрымала з ФРГ дар ахвярам Чарнобыля агульным коштам недзе на 1 мільён марак... Але вернемся да «Бацькоўшчыны». У вас ёсць намеры арганізаваць паліграфічную базу, выдаваць свае выданні...*

— У статуце многае з разлікам на будучыню. Мы паспрабуем выдаваць газету «Бацькаўшчына», яшчэ штогадовік «Бацькаўшчына» таксама. Гэта будзе публіцыстычны, гісторыка-культурны зборнік. Можна сказаць, што такі зборнік ужо выдаецца маскоўскімі беларусамі пад назвай «Скарынічы». Выдадзена два і падрыхтаваны трэці гадавік. Але адны яны не здолеюць выдаваць, ім трэба дапамагчы, падключыць навуковыя і мастацкія сілы ў рэспубліцы. Гэта можа быць цікавае выданне.

*— Яўген Рыгоравіч, вось у Звароце вы пішаце: «Калі б мы ўмелі жыць па-людску са сваёй эміграцыяй, яна шмат у чым здолела б нам дапамагчы». Факт, што ў Беларусі стаўленне да эміграцыі (прынамсі, было) не такое, як у Прыбалтыцы ці нават на Украіне. Але ж і эміграцыя наша не такая як прыбалтыйская ці ўкраінская. Тыя даўно ўжо дапамагаюць сваёй Радзіме ў перабудове. Да прыкладу, столькі каштоўных помнікаў нацыянальнай культуры вярнулі свайму народу. А ў нас, нягледзячы на ўсе нашы заклікі, глуха. Праўда, на чарнобыльскае гора некаторыя шчыра адгукаюцца. Дзякуй ім за гэта.*

*Дык вось, ці не празмерныя надзеі на эміграцыю?*

— Чакаць ад нашай эміграцыі вялікіх ахвяраванняў не даводзіцца. Па-першае, калі браць рэліквіі, культурныя каштоўнасці, то яна іх не мае. А па-другое, няма той патрыятычнай свядомасці, што ў іншых, якой былі б ахоплены не тысячы, а мільёны нашых землякоў. Мы да перабудовы не хацелі ведаць свядомых беларусаў, яны пакуль што да нас насцярожана адносяцца. Яшчэ вагаюцца і прыглядаюцца. Ды час нам адчуць, што мы не толькі праваслаўныя, католікі, уніяты, партыйныя, беспартыйныя, а проста беларусы. Народ, які мае сваю багатую гісторыю, толькі забыў яе, які мае высокія маральныя якасці. Мы ўсё ж разлічваем на вопыт нашай эміграцыі. Думаем і верым, што адгукнуцца на наш заклік беларусы, у якім бы кутку свету яны ні жылі.

*— Што ж, хай спраўдзяцца вашы намеры і добрыя задумы. Багатага плёну «Бацькаўшчыне», хай моцна становіцца на ногі. І шчырага партнёрства з «Радзімай».*

**Вёў гутарку Вацлаў МАЦКЕВІЧ.**

## АД СЭРЦА — ДА СЭРЦА



Бадай, што ніхто з нашых замежных суайчыннікаў цяпер не выпраўляецца ў Беларусь, як кажуць, з пустымі рукамі. Ведаючы, пра наша гора (а каб жа яно адно хадзіла!), людзі, якіх лучыць з нашай зямлёй, з нашым народам адзінства паходжання, аддаюць, што маюць і што могуць.

Але сказаць так, значыць не сказаць усю праўду і пакрыўдзіць многіх, хто ахвяруе з пачуцця міласэрнасці. Да нас, да нашых пякучых праблем ставяцца са спагадай і працягваюць руку дапамогі людзі, якія ніколі, можа, і не былі на Беларусі і пачулі пра яе адно праз страшнае слова «Чарнобыль».

Ніна Чарапанава сама руская і паходзіць з месцаў, далёкіх ад Беларусі, але яна ёй добра вядома, дзякуючы сувязям, якія падтрымліваюць Беларускае таварыства «Радзіма» і Руска-славянскае таварыства ў горадзе Брысбен (Аўстралія), старшынёй якога і з'яўляецца Ніна Інакенцьеўна.

У сярэдзіне жніўня Н. Чарапанава прыехала па справах у Беларускае таварыства «Радзіма» і праз яго перадала на лячэнне хворых ад радыяцыі партыю аднаразовых шпрыцаў і некалькі тысяч іголак да іх. Апрача таго, яна прывезла з Аўстраліі дзве каляскі для інвалідаў афганскай вайны. Па рашэнню Беларускага таварыства інвалідаў іх перадалі маладым хлопцам, якія сталі калекамі ў гэтай злачыннай авантуры, распачатай не народам нашым, а былымі кіраўнікамі партыі і дзяржавы, Васілю Літвіненку і Уладзіміру Міхалапу.

І шпрыцы з іголкамі, і інвалідныя каляскі — гэта дар членаў Руска-славянскага таварыства і прыхаджан рускіх праваслаўных цэркваў у Брысбене.

**НА ЗДЫМКУ: уручэнне каляскі інваліду В. ЛІТВІНЕНКУ. Побач з ім Н. ЧАРАПАНАВА і старшыня Мінскага абласнога праўлення Беларускага таварыства інвалідаў, народны дэпутат БССР М. МАЦКЕВІЧ.**

**Фота С. КРЫЦКАГА.**

## ГОСЦІ «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ»

# ЗАНЕПАКОЕНЫ ВАШЫМІ СПРАВАМІ

Муж і жонка Барысенкі з Англіі — даўнія шчырыя сябры нашай газеты. Вось і сёлета, прыехаўшы ў Беларусь да сваякоў Савелія, яны завіталі да нас у госці, каб падзякаваць за «Голас Радзімы», аказаць газеце матэрыяльную падтрымку.

Першая наша сустрэча на беларускай зямлі адбылася, напэўна, гадоў 20 назад. Былі і тады прычыны для смутку ў нашага госця: ваеннае ліхалецце закінула Савелія Барысенку на чужыну, назаўсёды адарвала ад дому. Але, бадай, тая сустрэча была больш радаснай. Беларусь адбудавалася пасля вайны і даволі ўпэўнена ішла наперад. Тое, што ўбачылі госці сёлета ў Мінску, прывяло іх у роспач, яны ўпарта спрабуюць знайсці адказ: хто вінаваты ў цяжкім эканамічным становішчы, у якім апынулася рэспубліка? На жаль, на гэтае балючае пытанне і мы самі не можам адказаць адназначна.

— Я ведаю, што нават у хуткім часе пасля вайны былі адменены карткі, — разгублена гаворыць Савелій Барысенка, — а сёння мае сваякі цукар, мыла купляюць па нейкіх бонах.

— Мы чытаем,— працягваў госць, — што многія пакідаюць сёння Савецкі Саюз. Толькі не думайце, быццам іх там надта чакаюць. І ў нас усе баяцца беспрацоўя. А эмігранты — гэта новыя рабочыя рукі. У будучыні — лішнія рабочыя рукі.

Я ўжо казала, што Савелій Барысенка многа гадоў з'яўляецца чытачом «Голасу Радзімы». Некалі газета адыграла не апошнюю ролю ў тым, што ён знайшоў дарогу на Беларусь. Цікаўлюся, ці адчуваецца, на яго думку, у «Голасе Радзімы» перабудова.

— Так, у газеце бачу добрыя перамены, — адказвае госць. — Спачатку намёкамі, а цяпер усё смялей яна расказвае пра тое, што тут адбываецца. На вас час паўплываў у лепшы бок, — усміхаецца С. Барысенка. — Дарэчы, цяпер многа пішуць пра беларускую мову, пра тое, што на ёй зноў дазволена вучыцца, размаўляць. Я да вайны вучыўся ў Магілёве, у нас у школе выкладалі беларускую мову, я яе вучыў і цяпер яшчэ памятаю. Не разумею, якія могуць быць спрэчкі, патрэбна ці не патрэбна беларуская мова. У кожнага народа ёсць родная мова, і яе ён павінен шанаваць, як Айчыну, як сваю маці.

**Д. ЧАРКАСАВА.**

## З АПОШНІХ ВЕРНІСАЖАЎ



**Увагу сталічных аматараў выяўленчага мастацтва прыцягвае даволі арыгінальная выстаўка, што дэманструецца ў мінскім Палацы мастацтва. Экспазіцыя яе складаецца з твораў мастакоў французскага горада Німа і беларускіх мастакоў аб'яднання «Форма». Кніга водгукаў поўніцца супярэчлівымі меркаваннямі. Адны горача вітаюць прадстаўнікоў нетрадыцыйнага мастацтва, адзначаючы цікавыя фармальныя і жывапісныя пошукі аўтараў, а другія цалкам адвяргаюць убачанае, нават абражаюцца на незразумеласць тых ці іншых твораў, цалкам адмаўляючы ім у мастацкасці. Сярод даволі аднастайных колеравых кампазіцый французаў прыемна здзіўляюць работы беларусаў С. Забаўчыка і С. Лапшы.**

**НА ЗДЫМКАХ: Ж. САРЭН. «Кампазіцыя»; Ж. ШАНЕЛЬ. «Карыда».**



## *ЖЫЦЦЁ І ЛЁС СПЕВАКА МІКАЛАЯ ВОРВУЛЕВА*

# НЯЗГАСНАЯ ПЕСНЯ

— МОЖА, вы ведалі Мікалая Ворвулева? — пыталіся навучэнцы Лоеўскага педвучылішча пасля літаратурнага канцэрта.

— Раскажыце пра яго.

— Няма ў продажы пласцінак са спевамі Ворвулева, — скардзіліся рыбакі ў Браславе.

— На гэтай сцэне тройчы выступаў Ворвулеў, — хваліліся ў Палацы культуры ільнокамбіната ў Оршы.

— Ён прыязджаў у наш калгас, — казалі ў вёсцы Шчапанавічы, што на Ашмяншчыне. — Прайшло шмат гадоў, але ніхто з нас не можа забыць таго вечара.

Усюды помняць цудоўнага артыста. Глыбокі след застаўся ў душы кожнага, хто яго слухаў, хоць адзін раз. Людзі рознага веку любяць і шануюць яго, але ведаюць аб ім мала. Гэта і навяло мяне на думку напісаць пра спевака, які ў пасляваенны час на працягу многіх гадоў радаваў людзей незвычайным хараством свайго голасу.

...Быў без хмурынкі летні дзень 1951 года. І вось у небе ўзнікае пасажырскі самалёт. Робіць круг над аэрадромам і ідзе на пасадку. З кабіны спускаюць трап — вузкія металічныя драбінкі. Сыходзяць пасажыры, ланцужком крочаць да вакзальнай брамкі. Сустракаючыя хвалюцца, шукаюць вачамі і не знаходзяць чалавека, якога так жадаюць бачыць. Мабыць таму, што ідзе ён апошнім, трымаючы вялізны ахапак кветак, якія засланілі ягонае аблічча. Нарэшце гэты пасажыр праскочыў праз дзверцы, і яго абкружыла моладзь.

У той сонечны дзень я быў у аэрапорце, дзе ўпершыню ўбачыў Мікалая Ворвулева. Потым з дня на дзень збіраўся паслухаць яго, ды неяк не ўдавалася.

Але яшчэ не чуўшы спевака, я ўжо добра ведаў яго імя. Бывала трапіш да знаёмых, абавязкова прыгадаюць Ворвулева і шчыра параяць паслухаць яго. Зойдзеш у якую ўстанову— гаворка пра яго. Сядзіш у трамваі ці аўтобусе і раптам пачуеш яго імя. Неяк ад пасажыраў у цягніку я даведаўся, што яны едуць у Мінск на канцэрт Мікалая Ворвулева. Не заходзячы дамоў, я накіраваўся ў Дом афіцэраў, дзе быў абвешчаны канцэрт артыста. Білетаў у касе не было. Не пашанцавала і на «лішні» з рук. Выходзячы, сустрэўся ў дзвярах з упаўнаважаным эстрады, які наладжваў мае літаратурныя канцэрты ў Віцебску.

— Вы нарадзіліся ў кашулі! — ашаламіў ён мяне знянацку. — Ёсць справа.

— Нічога не разумею... — разгублена заміргаў я.

— Няма часу тлумачыць. Даведаецеся пасля канцэрта. Хадземце, калі маеце ахвоту пастаяць.

Зала перапоўнена. Заняты адкідныя і прыстаўныя крэслы. Уздоўж сцяны ў партэры і на балконе стаяць тыя, каму не хапіла білетаў.

Наэлектрызаваны агу[illegible]ай напружанай цікавасцю, я чакаў, што адчыніцца заслона і адбудзецца нейкі цуд. Баяўся расчаравання. Хіба ж не здаралася, калі вакол нейкага імя стварaецца арэол, [illegible]еш з жаданнем пачуць ц[illegible]а-чыць шэдэўр, а яго няма.

З Ворвулевым нічога падобнага не здарылася. Харавство гучання яго голасу адразу паланіла душу. Дыкцыя— бездакорная. Спявае без усялякага напружання, свабодна і лёгка. Але высвятліць — ад умення гэта, ад майстэрства ці ад шчаслівых мажлівасцей прыродных — пакуль што не ўдаецца. Голас льецца ручаём, арганічна і натуральна. Плюс да ўсяго гэтага —яркі акцёрскі талент: тэмперамент, сцэнічная абаяльнасць, арганічны гумар, пачуццё меры, уменне трымаць увагу аўдыторыі, а яшчэ і прывабнае аблічча.

Канцэрт суправаджаюць дружныя воплескі і словы захаплення. На сцэну нясуць запіскі з просьбай выканаць празнае — ад оперных арый да папулярных у той час песень. Артыст нікому не адмаўляе і спявае нястомна. З усіх бакоў залы нясуць яму кветкі.

Я быў узрушаны і незабаўна для сябе выстаяў два канцэртныя аддзяленні.

На выхадзе з залы ў фае чакаў мяне той упаўнаважаны эстрады.

— Хутчэй ідзіце за мною. Пазнаёмлю з Мікалаем Ворвулевым. Для канцэртаў у Слуцку вы патрэбны нам як вядучы і чытальнік.

За кулісамі спявак пераапранаўся. Накінуўшы на сябе пінжак і зашпіліўшы гузікі, падаў мне руку. Пацiскаючы яе, я пачаў гаварыць пра сваё ўражанне ад яго канцэрта.

Ён не даслухаў.

— Кінь ты, на самай справе... Не дуры галавы! Спяваў і нічога асаблівага. Ведаеш, магу і лепей!

Мне спадабаўся таварыскі тон і прастата яго абыходжання. Гаварыў, як з сябрам.

Я ведаў меншых за яго майстроў. Некаторыя важнічалі, задзіралі насы. Здаралася, не заўважалі знаёмых, не адказвалі на прывітанні. Не любіў такіх Ворвулеў і цураўся іх. Сам не фанабэрыўся і высмейваў задавак. Аставаўся заўсёды шчырым, непасрэдным і па-дзіцячаму даверлівым. Да людзей ставіўся аднолькава, незалежна ад іх службовага становішча і заслуг. Самыя блізкія сябры лічылі яго нават залішне праставатым. Аднак яны ж здзіўляліся таму пераўвасабленню, якое адбывалася са спеваком, калі той выходзіў на сцэну. Там ён набываў нейкую велічнасць, нават загадкавасць.

З кожным днём гастроляў на Случчыне мяне ўсё мацней і мацней чараваў Мікалай Ворвулеў. Чараваў не толькі сваім талентам, але і нейкай магутнай сілай абаяльнасці. Тады я канчаткова пераканаўся, што на сваім жыццёвым шляху сустрэў яшчэ аднаго чалавека з тых найвыдатнейшых людзей, якія не забываюцца ніколі.

Цікавы ён быў не толькі на сцэне, але і ў жыцці. У яго быў вулканічны тэмперамент, у душы кіпелі вулканічныя страсці, а ў вачах іскрылася нястрымная радасць. Быў увесь — парыў і рух. Здавалася, няма на яго стомы, неўтаймоўным заставаўся з раніцы і да ночы. Любіў і цаніў трапнае слова і дасціпны жарт. Даўжэй за ўсіх заліваўся смехам ад чужой і ад сваёй удалай выдумкі.

Увечары аддаваўся спевам. За кулісамі тоўпіліся іншыя ўдзельнікі канцэрта і замілавана слухалі. Кожнае выкананне чымсьці адрознівалася ад папярэдняга. Цікава было сачыць праз шчыліны кулісаў па паводзінамі ў зале. Здавалася, там не дыхалі. Вось заіскрыліся вочы і з'явіліся ўсмешкі на самых змрочных і сумных тварах. Умеў спявак ствараць патрэбны настрой у сваіх слухачоў.

Натуральна, мне захацелася як мага болей ведаць пра Ворвулева. Зручным аказалася тое, што жылі мы ў адным нумары і, узбуджаныя пасля канцэрта, засыналі не адразу. Лежачы ў ложках, бясконца гаварылі. Неяк я папрасіў яго расказаць пра сябе, і ён да глыбокай ночы варушыў сваю памяць. Раніцай я бегла занатаваў у дарожным блакноце асноўнае з таго, што пачуў.

МІКАЛАЙ ВОРВУЛЕЎ нарадзіўся каля Дона ў вёсцы Паўлаўцы Варонежскай вобласці ў 1917 годзе. Яго бацькі-сяляне працавалі ад зары да зары, жылі бедна. Ледзьве ўзбіваліся на хлеб, каб пракарміць сям'ю з пяці душ і сяк-так апранаць даматкацым способам. Але не скардзіліся і не сумавалі. Вечарамі і ў святочныя дні спявалі. У бацькі быў бас, у маці — сапрана, у брата — барытон, у сястры — кантральта.

Хата Во[illegible]левых не пуставала. У ё[illegible]усёды былі людзі. Не толькі аднавяскоўцы, але і з суседніх вёсак і пасёлішчаў. Яны мелі ахвоту паслухаць, на нейкі момант адысці ад вечных клопатаў і сумнай адна[illegible]айнасці жыцця.

Бацька [illegible]ошуках падзаробку ездзіў з канём да чыгуначнай станцыі, падвозіў людзей. Аднойчы ўзяў з сабою Колю. З таго часу ўжо не выязджаў без яго, бо хлопчык спяваў у дарозе, у выніку даход павялічыўся: ахвотнікаў ехаць на іхняй падводзе стала болей...

У 1934 годзе Мікалая залічылі ў студэнты чыгуначнага тэхнікума. Хлопец стаў наведваць драматычны гурток. Вельмі спадабаўся педагогам у ролі Нязнамава ў спектаклі па п'есе А. Астроўскага «Без віны вінаватыя». А як спевака выявілі там яго не адразу. Падрос і пачаў саромецца спяваць у прысутнасці людзей. Цалкам аддаваўся спевам, калі быў адзін, дзе-небудзь на лузе каля рэчкі альбо ў полі. Але як ні хаваўся—яго падслухалі. Сябры пачалі ўпрошваць яго спець са сцэны. Потым усе наперабой сталі запэўніваць, што ў спевах і толькі ў спевах ягонае прызванне. У далейшым ужо ніводзін студэнцкі канцэрт не адбываўся без яго ўдзелу.

**Аляксей СЛЕСАРЭНКА.**

**НА ЗДЫМКУ: Мікалай ВОРВУЛЕЎ з сынам Міколам за кулісамі ў час спектакля «Князь Ігар».**



# НА АЎТАСТРАДЗЕ БРЭСТ—МАСКВА





Праязджаючы па сучаснай аўтастрадзе Масква—Брэст, нельга не заўважыць паварот на старую дарогу, што злучала гэтыя гарады яшчэ ў мінулым стагоддзі. І праходзіць яна цераз адзін са старажытных, багатых на гістарычныя падзеі малых гарадоў Беларусі — Бярозу.

Першае дакументальнае ўпамінанне аб ёй, як аб невялікім пасяленні, адносіцца да 1477 года. Вядомасць гэты бярозавы край набыў з часу заснавання там у XVII стагоддзі каталіцкага манастыра ордэна картузаў. Адсюль і назва — Бяроза—Картузская (ці Картуз—Бяроза).

Сёння ад былога манастырскага комплексу захаваліся толькі частка сцяны адной з вуглавых вежаў, уязная брама і рэшткі званіцы. Змянілася і аблічча горада. Побач з гістарычнымі помнікамі выраслі новыя мікраараёны.

Ва ўсе часы славілася Бяроза сваімі майстрамі. Нямала ўмельцаў, якія данеслі да нашых дзён многія старажытныя рамёствы, жыве ў Бярозе і сёння. Ёсць тут і фальклорныя калектывы, удастоеныя звання «народных». А гэта значыць, што гісторыя Бярозы—Картузскай працягваецца.

НА ЗДЫМКАХ: толькі частка сцяны адной з вуглавых вежаў і ўязная брама захаваліся ад Картэзіянскага манастыра, пабудаванага ў XVII стагоддзі; Якаў ШАЎЧУК — вядомы на ўсю Беларусь майстар па вырабу народных музычных інструментаў — карэнны жыхар Бярозы; Бяроза сёння. Летняе кафэ.

Фота У. МЯЖЭВІЧА.



НАТАТКІ БІЁЛАГА

# ЗА ВОКНАМІ ЖНІВЕНЬ

З першымі жнівеньскімі днямі адчуваецца набліжэнне восені. Нібыта і лета яшчэ як лета. У лесе ўся трава стаіць зялёнай. І кветак яшчэ мноства па лясных палянках разбеглася. Сонца таксама грэе па-ранейшаму шчодра і горача.

Але ўсяму свая пара. Ужо пазвоньвае залацістай лістотай кучаравая бяроза, страчвае звыклую зялёную афарбоўку шырокае лісце арэшніку, лёгкая чырвань зайграла ў дрыжачых кронах асін. І з кожным днём яркіх колераў у прыродзе ўсё больш і больш. Яны — не толькі ў мудрагелістай мазаіцы лістоты і разнатраўя, але і ў мностве асенняй ягады і іншых лясных пладоў. Чарніцы, якіх было багата ў ліпені, змяняюцца ярка-чырвонымі гронкамі брусніц і талакнянкі, напоўненымі вішнёвым бляскам буйнымі пладамі журавін, ядавітымі вочкамі воўчага лыка, важкай мясістай ажынай. Набываюць спецыфічны карычневы колер і прыкметна вылучаюцца сярод лістоты спеючыя арэхі і жалуды.

Жнівень — разгар уборачнай пары. Жнівень, серпень — так па-рознаму называюць яго ў народзе. У першых чыслах заканчваецца касавіца азімых. Затым, быццам караблі ў бязмежным акіяне, плывуць па залацістым полі ў напрамку ангараў гружаныя вераніцы машын з пшаніцай, ячменем, аўсом. Да канца месяца і грэчка выспявае. А там і на іншыя палі паспяшыць трэба. На чарзе лён, бульба, капуста. Адлежвацца няма калі. Вырашаецца лёс доўгага працоўнага года. Запаўняюцца склады і элеватары. Усяго трэба нарыхтаваць з запасам.

Гэтак сама, як і чалавек, стараюцца дзікія жывёлы. Яны спяшаюцца напоўніць свае зімовыя кладоўкі. Зіма наперадзе доўгая. Голад — не цётка.

Цягаюць зерне ў глыбокія норкі мышы і землярыйкі. Пацукі імкнуцца адарваць ласы кавалак ад чалавечага ўраджаю.

А вось большасць лясных насельнікаў здабываюць сабе корм «сумленнай працай». Нават і карысць пры гэтым людзям прыносяць. Сойкі і арэхаўкі, што прыляцелі з тайгі, без стомы збіраюць шышкі, арэхі і жалуды. Шукаючы для сваіх запасаў патаемныя месцы, разносяць іх далёка ад месца збору і хаваюць пад каранямі, у глебе, сярод ламачча ці проста ў моху або ў густой траве. Не ўступаюць ім ваўёркі, лясныя палёўкі. Па дарозе да кладовак частка насення і пладоў губляецца. Аб іншых сховішчах звяркі і птушкі потым проста забываюцца. А яны возьмуць і прарастуць на наступны год. І зазелянее раптам вясной закінуты пусты куток арэшнікам ці клёнам. А рассяленне дуба і ўвогуле толькі дзякуючы лясным птушкам адбываецца. Усё ўзаемазвязана, і карысць узаемная.

Памацнелі і ўзняліся ў паветра глушцы і цецярукі. Падраслі маладыя барсучаняты. Заканчваецца лінька ў ваўкоў і лісіц. Узмоцнена харчуюцца, назапашваючы падскурны слой тлушчу, мядзведзі. Асабліва любяць яны пасвіцца ў гэты час на аўсах. Вялікімі лапамі зграбае таптун недаспеўшыя салодкія целкі і высмоктвае з іх пажыўную малочна-васкавую вадкасць.

Птушкі ўжо збіраюцца ў чароды. Першымі рушаць у далёкі шлях стрыжы, ластаўкі, за імі — івалгі, гарыхвосткі, зязюлі. А даўно ўжо падужэўшая моладзь шпакоў пад наглядам «старой гвардыі» выпрабляе паветраныя піруэты, нібы з усёй адказнасцю рыхтуецца да цяжкасцей працяглых пералётаў.

Усё менш у паветры насякомых. Знікаюць матылі — крапіўніцы, капусніцы, соўкі, лімонніцы. Пчолы спяшаюцца ўхапіць апошнюю важкую ношку асенняга медазбору. Цяпер яны пераключыліся на духмяныя дробныя кветачкі верасу. Верасовы мёд, хаця і гаркавы, але каштоўны. Цёмна-жоўты, іншы раз з карычнева-чырвоным адценнем, вызначаецца шчыльнай кансістэнцыяй і хутка згушчаецца дзякуючы багаццю бялковых рэчываў.

Больш доўгія ночы нясуць прахалоду вадаёмам. Усё часцей сцелюцца туманы, цяжэюць ранішнія росы. «Цвіценне» вады спыняецца. Яна становіцца чысцейшай і больш празрыстай. Рыба пачынае паводзіць сябе больш актыўна.

Ну і вядома жнівень — гэта перыяд грыбоў. Ні адзін месяц так не багаты на грыбы, як жнівень. Гэта і ўсім вядомыя падасінавікі і падбярозавікі, лісічкі і рыжыкі, ваўнянкі і грузды, маслюкі і шампіньёны. Сапраўдны лясны склад раслиннага мяса. І гэта без перабольшання. Па ўтрыманню мінеральных рэчываў грыбы сапернічаюць з фруктамі. У сушаных баравіках удвая больш бялкоў, чым у ялавічыне, у тры разы больш, чым у рыбе. Экстракты і пахучыя рэчывы, што маюцца ў грыбах, павышаюць апетыт і робяць станоўчы ўплыў на ўвесь арганізм. А колькі асалоды ад іх збору!

Вячаслаў СТОМА.

Усе, хто хоча падтрымаць «Бацькаўшчыну» і тым самым дапамагчы ёй у здзяйсненні задуманага, у ажыццяўленні яе планаў і спраўджанні намераў, могуць зрабіць гэта, пералічыўшы сродкі на наступныя рахункі:

№ 700510 у Белжылсацбанку,

№ 000700704 (валютны) у Знешгандальбанку СССР

з паметкай: «Аргкамітэту «Бацькаўшчына».

# У ЗАМЕЖНЫХ КЛУБАХ

Сёння каля 20 беларускіх спартсменаў абараняюць гонар самых розных каманд замежных краін. Усе яны, несумненна, сапраўдныя «зоркі» беларускага спорту. Аднак там, на новай спартыўнай ніве, зарэкамендаваць сябе пакуль што змаглі не ўсе. Думаецца, найбольшых поспехаў дасягнуў былы вучань нашага славутага волата Аляксандра Мядзведзя Ваха Яўлоеў — заслужаны майстар спорту СССР, чэмпіён Еўропы 1984 і ўладальнік Суперкубка 1985 гадоў па вольнай барацьбе. Ваха заключыў на тры гады кантракт з вядомай у свеце японскай школай па кэтчу, якую ўзначальвае Антоніо Інокі. В. Яўлоеў стаў у мінулым годзе чэмпіёнам свету і ўладальнікам Кубка свету па кэтчу.

Пэўных поспехаў дасягнуў і футбаліст Сяргей Алейнікаў, які апошні год правёў у радах славутага італьянскага клуба «Ювентус». У сезоне, які закончыўся крыху больш двух месяцаў назад, «Ювентус» заваяваў адзін з ганаровых прызоў еўрапейскага футбола — Кубак УЕФА, і, паводле водгукаў прэсы, выхаванец беларускага футбола зарэкамендаваў сябе даволі няблага. Праўда, новае кіраўніцтва турынскай каманды аб'явіла аб адмове ад паслуг Алейнікава... Цяпер ён будзе выступаць за італьянскі «Лечэ».

Пасля чатырох месяцаў, праведзеных у клубе другога дывізіёна англійскага футбола — «Брайтане», пераведзены ў вышэйшы клас—каманду першага дывізіёна «Саўтгемптан» другі былы паўабаронца мінскага «Дынама» Сяргей Гоцманаў.

Што датычыць баскетбалістаў, то заслужаны майстар спорту, неаднаразовая чэмпіёнка кантынента, капітан мінскага «Гарызонта» Галіна Савіцкая цяпер выступае ў іспанскай «Навары»; яе былыя сяброўкі Ірына Губа і Наталля Ткачова—у балгарскай камандзе «Электрон» са Стара-Загоры. Дарэчы, гэта каманда — чэмпіён Балгарыі.

І яшчэ некалькі імёнаў. Хакеіст Сяргей Тукмачоў выступае зараз за адзін з французскіх клубаў; валейбалістка Таццяна Шапавалава—у Італіі, веласіпедысты Алег Логвін і Ігар Сумнікаў—за вядомую прафесіянальную каманду «Альфа-Люм». За італьянскую каманду «Арціджыя» сёлета будзе гуляць шматразовы чэмпіён Савецкага Саюза, уладальнік Кубкаў СССР і Еўропы, алімпійскі чэмпіён гандбаліст Георгій Свірыдзенка.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Індэкс 63854. Зак. № 1126.